# Гісторыя



*П. БАДЫНА, Л. Ю. КАЗАКОЎ*

## ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ Ў «ПРЫРОДАЗНАЎЧАЙ ГІСТОРЫІ КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬСКАГА» РЭМІГІЮША ЛАДОЎСКАГА

Посвящена деятельности монаха ордена пиаров Ремигиуша Ладовского в контексте изучения природных особенностей Речи Посполитой и Великого Княжества Литовского в XVIII в. на основании его книги «Естественная история Королевства Польского». Приведена основная информация, иллюстрирующая состояние естественных наук на 1783 г., а также характеристика земель ВКЛ. Ремигиуш Ладовский дает высокую оценку красоте природы и богатству природных ресурсов ВКЛ, делает исторические экскурсы в прошлое и излагает перспективы развития региона. Отмечается, что труд монаха отображает экономическое развитие белорусско-литовского государства. Анализируются основные пункты книги, содержание которых затрагивает земли современной Беларуси.

*Ключевые слова*: Великое Княжество Литовское; Беларусь; экономическая история; естествознание; Речь Посполитая; Ремигиуш Ладовский; XVIII век.

The article is sanctified to activity of monk of order of Piars Remigiusz Ladowski in the context of study of natural features of Rzecz Pospolita and Great Duchy Lithuanian in XVIII of century on the basis of his book «Natural history of Polish kingdom». To this article basic information, that illustrates the state of natural sciences on 1783, and also looks of Ladowski, sanctified to territory of GDL, it's natural resources, flora and fauna. Remigiusz Ladowski gives a high estimation to beauty of nature and riches of natural resources of GDL, gives historical digressions in the past, and also analyses the prospects of development of region. Labour of monk is one of not many labours of XVIII of century that represent economic development of the Belarussian-Lithuanian state. An analysis of basic points of books maintenance of that is affected by earth of modern Belarus and make maintenance of this article.

*Key words*: Great Duchy Lithuanian; Belarus; economical history; natural schience; Polish kingdom; Remigiusz Ladowski; XVIII of century.

Кніга ксяндза Рэмігіюша Ладоўскага «Прыродазнаўчая гісторыя Каралеўства Польскага (1783)» – гэта невялікая праца, якая налічвае 218 старонак. Яна выканана ў выглядзе зборніка матэрыялаў аб асноўных з'явах і прыродных феноменах зямель Каралеўства, адпаведна даследаванне праводзілася адносна польскіх, беларускіх і літоўскіх тэрыторый, якія ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай у 1783 г. Пры гэтым ва ўводзінах аўтар адзначае, што яго кніга прысвечана таксама і апісанню тых зямель, якія адышлі ад Рэчы Паспалітай у выніку падзелу 1772 г. Кніга створана паводле алфавітнага прынцыпу, таксама змешчаны індэкс апісаных з'яў. Праца Ладоўскага ўтрымлівае ў сабе не толькі аповед пра з'явы жывой прыроды, але і апісанне радовішчаў карысных выкапняў, геаграфічных асаблівасцей краю (напрыклад, рэк), розныя гаспадарчыя дробязі і парады.

У прадмове Ладоўскі выразна сведчыць пра тыя крыніцы, адкуль ён браў свае ідэі і веды. Гэта праявілася ў наступнай цытаце: «Скарбы той неасэнсоўваемай прыроды, якія я вырашыў здабыць з цемры і коратка і як мага больш дакладна апісаць, ужо пададзены ў працах найбуйнейшых пісьменнікаў нашых: Длугаша, Кромера, Мехавітага, Старавольскага, Сарніцкага, Апалінскага, Семяновіча, Тылькоўскага, Рачынскага, ксяндза Клюка і іншых»[1]. Цікава, што Ладоўскі пазначае ксяндзом толькі Клюка, у той час як і Длугаш, і Кромер, і Тылькоўскі, і Рачынскі таксама былі прадстаўнікамі духавенства. Выкарыстоўваюцца і працы іншых аўтараў замежнага паходжання розных часоў і эпох. Прыкладам можа стаць аповед пра гісторыю распрацоўкі радовішчаў жалеза ў Каралеўстве Польскім. Што цікава, даследчык, на якога ён спасылаецца, не з'яўляецца польскім прыродазнаўцам. «У Чэхіі ёсць знаўца жалезных руд Альдраванд, які казаў, што на тэрыторыі Польшчы ёсць радовішчы жалезнай руды, але пры гэтым дакладных месцаў ён у сваіх працах не пазначыў»[2]. Верагодна, гэты ўрывак прысвечаны італьянскаму прыродазнаўцу і доктару Улісу Альдраванду (1522–1605). Таксама ў працы Ладоўскага сустракаюцца спасылкі і на такіх значных прыродазнаўцаў яго часу, як Карл Лінэй і Джордж Л. дэ Бюфон. Варта адзначыць, што гэтыя светачы тагачаснага прыродазнаўства паяўляюцца ў кнізе ў сувязі з даследаваннямі ксяндза Крыштафа Клюка.

Безумоўна, кніга Ладоўскага – найвышэйшы прыклад тагачаснай навуковай працы, але яшчэ адной яе выдатнай характарыстыкай з'яўляецца тое, што яна была напісана на польскай мове. Па сутнасці гэта першая польскамоўная фізіяграфія зямель Рэчы Паспалітай. Такім чынам, разгледзім, як у творы прадстаўлена Вялікае Княства Літоўскае (далей – ВКЛ) і яго геаграфічныя і прыродныя з'явы. Варта падкрэсліць, што землі ВКЛ, паводле Ладоўскага, уключалі ў сябе і тэрыторыю сучаснай Беларусі. Паняцце «Літва» ўспрымалася перш за ўсё як сінонім княства. Таму, апісваючы яго прыродныя феномены, аўтар меў на ўвазе землі сучаснай Беларусі.

Аднак, перш чым мы пяройдзем да прадстаўлення матэрыялаў, прысвечаных ВКЛ, трэба прысвяціць некалькі слоў характарыстыцы Рэмігіюша Ладоўскага. Яго сапраўднае імя Яцэк Ладоўскі (1738–1798), які нарадзіўся ў шляхецкай сям'і на Валыні, а пасля далучэння да ордэна піяраў у 1757 г. прыняў імя Рэмігіюш. Быў першым у школе Падалінца, дзе і прыняў пострыг. Атрымаў ступень па рыторыцы і філасофіі ў Жэшуве і Меджырэчы. З 1762 г. выкладаў у піярскіх школах у Хелме, Ловічы і Вэлюне, дзе атрымаў ступень па тэалогіі. Затым выкладаў у Пётркуве, Радаме, выконваў абавязкі віцэ-рэгента ў Лукаўскім канвікце. У 1776–1792 гг. жыў пры дварах такіх магнацкіх родаў, як Сцыпіёны, Галухоўскія, а таксама княгіні Ганны Сапегі Ябланоўскай. Гэты факт быў надзвычай значным у навуковай і выдавецкай дзейнасці Ладоўскага. Ён актыўна выкарыстоўваў калекцыі кабінета прыродазнаўства, створанага ў маёнтку княгіні, які, дарэчы, з'яўляўся адным з найбагацейшых збораў у Еўропе[3]. Ад княгіні меў фінансавую падтрымку ў выданні «Прыродазнаўчай гісторыі каралеўства Польскага». Ладоўскі памёр у Варшаве. Апроч даследаванняў па прыродазнаўстве быў вядомы таксама сваімі працамі ў зямельным, палітычным і міжнародным праве, а таксама перакладамі з французскай мовы[4].

У «Прыродазнаўчай гісторыі каралеўства Польскага» словы «Літва», «літоўскі» і г. д. неаднойчы сустракаюцца ў шматлікіх артыкулах кнігі, напрыклад, калі той ці іншы прыродны феномен быў прадстаўлены ў розных частках краіны, у тым ліку і ў ВКЛ. Крытэрыем выбару феноменаў і з'яў фаўны і флоры ВКЛ, апісаных Ладоўскім і выкарыстаных пры стварэнні гэтага артыкула, з'яўляецца ўнікальнасць, або эндэмічнасць, таго ці іншага віду. Гэта не будзе вычарпальнай рэтраспектывай, а хутчэй выдзяленнем пэўных тэндэнцый у выкладанні матэрыялу адносна ВКЛ у працах славутага піяра.

З самага пачатку варта прывесці меркаванне Ладоўскага ў агульным выказванні пра землі ВКЛ: «У Літве не ўся зямля выкарыстоўваецца ў поўнай ступені, бо шмат зямлі каменістай, на якой кепска расце расліннасць, бо зямля досыць халодная, а яна патрабуе цяпла. Але пры гэтым урадлівасць зямель настолькі высокая, што дазваляе забяспечыць уласныя патрэбы, значная колькасць збожжа праз Нёман і Дзвіну дастаўляецца да марскіх партоў, дзе і прадаецца ў іншыя краіны»[5]. У астатняй частцы гэтага артыкула Ладоўскі апісвае нязмернае багацце і ўрадлівасць гэтых зямель. Так, «як сцвярджаў Апаленскі – у адзін год у Піляўскім порце было прададзена замежным купцам 15 000 лаштаў рознага збожжа, а з Мемельскага порта было прададзена за мяжу 23 000 бочак канаплянага зерня. Старавольскі пісаў, што да Рыгі ішло каля двух тысяч стругаў (або караблёў), а да Круляўца некалькі соцень віцін з розным таварам»[6]. З гэтага становіцца зразумела, што розных відаў збожжа было экспартавана каля 144 млн літраў (разлічыць дакладную вагу ў тонах ці цэнтнерах немагчыма таму, што мы маем справу з рознымі відамі збожжа, суадносіны вагі да аб'ёму якіх істотна адрозніваюцца). У выпадку з канапляным зернем было прададзена каля 11 млн літраў. Далей, спасылаючыся на Гваньіні, Ладоўскі апісвае найбольш распаўсюджаны спосаб апрацоўкі зямлі: «Поле прастойвае пэўны час, каб зарасці хмызняком, быллём і іншай расліннасцю. Затым, у ясны дзень, усё гэта падпальваецца, а пасля пры разворванні зямля змешваецца з попелам. Пасля гэтага ўрадлівасць зямлі істотна павышаецца, і дастаткова толькі кінуць у яе насенне, каб атрымаць такі ўраджай, у які цяжка паверыць»[7].

Варта спыніцца на крыніцах, на падставе якіх былі напісаны гэтыя звесткі. Аўтар абапіраецца на Апаленскага, Старавольскага і Гваньіні. У выпадку першага найбольш верагодная невялікая памылка ў адной літары. Правільна будзе чытаць – Апалінскі. Але пытанне тут значна больш складанае, бо з польскай гістарыяграфіі нам вядомы дзве асобы з гэтым прозвішчам, якія могуць прыгадвацца ў творы. Гэта мог быць Крыштаф Апалінскі (1609–1655) ці яго малодшы брат Лукаш Апалінскі (1612–1662). Яны былі сынамі Пятра, ваяводы познанскага, і абодва плённа працавалі ў палітычнай, навуковай і літаратурнай сферах. Сярод іх інтарэсаў былі і эканамічныя праблемы, цесна звязаныя з пытаннямі рэформ у краіне, прыхільнікамі якіх яны з'яўляліся[8]. Некаторыя даследчыкі польскай эканамічнай думкі далучаюць да найбольш значных прац па гэтых пытаннях «Дыскурс аб павелічэнні гарадоў у Польшчы» аўтарства Лукаша Апалінскага, у якім можна знайсці даныя, якія выкарыстоўваў Ладоўскі. Існуе і «Сатыра аб павелічэнні польскіх гарадоў» аўтарства Крыштафа. Што цікава, у «Сатыры» змяшчаюцца тыя ж тэзісы, якія прысутнічаюць і ў «Дыскурсе». Эдвард Ліпінскі, даследчык сацыяльна-эканамічнай думкі старапольскага перыяду, пры аналізе «Дыскурса» надаваў вялікае значэнне менавіта «Сатыры», а ў сувязі з гэтым і канцэпцыі аўтарства Крыштафа Апалінскага[9]. Менш праблем узнікае пры вызначэнні другога аўтара, якога прыгадваў Ладоўскі, а менавіта Старавольскага. Верагодней за ўсё аповед ідзе пра Шымана Старавольскага (1588–1656), што быў канонікам Кракаўскім і выдатным дзеячам навукі свайго часу, у сферу цікавасцей якога ўваходзілі пытанні эканамічных і палітычных рэформ Рэчы Паспалітай[10]. Таксама ёсць і трэці аўтар, працамі якога карыстаўся славуты піяр, а менавіта Гваньіні. У дадзеным выпадку размова ідзе пра вядомага гісторыка, купца, вандроўніка Аляксандра Гваньіні (1534–1614), аўтара «Хронікі еўрапейскай Сарматыі», якая ўпершыню пабачыла свет у 1578 г., а на польскую мову

была перакладзена ў 1611 г. Найбольш значнай высновай з гэтага з'яўляецца тое, што Ладоўскі ў працы 80-х гг. XVIII ст. падае як актуальную інфармацыю, характарызуючую Рэч Паспалітую, даныя, якія паходзілі ў лепшым выпадку з сярэдзіны XVII ст. Можна толькі здагадвацца, у якой ступені гэтая карціна была далёкая ад рэалій часу Ладоўскага.

Далей Ладоўскі адзначыў, якія культуры вырошчваюцца на землях ВКЛ. Сярод іх значнае месца займалі жыта, пшаніца, ячмень, авёс, гарох, лён на тканіну, сланечнік. Усе гэтыя тавары большай часткай сплаўляліся да Інфлянтаў, а ўжо адтуль морам да шматлікіх іншых еўрапейскіх краін. Апошнюю ж частку свайго даследавання Ладоўскі прысвячае агульнаму фізіка-геаграфічнаму апісанню ВКЛ. Ён сцвярджае, што большую частку зямель у краі займаюць балоты і азёры. У якасці прыкладу піяр прыводзіць гісторыю караля Жыгімонта Старога, які «вёў войска 24 мілі ад Оршы да Смаленска, пры гэтым ён быў вымушаны перапраўляцца праз 340 мастоў, якія вялі праз бесперапынныя балоты і азёры ў тым краі»[11]. Ладоўскі адзначае, што з 1514 г. фактычна не адбылося ніякіх меліярацыйных змен на гэтай тэрыторыі.

Не будзе залішнім прывесці вытрымку з кнігі Ладоўскага, якая мае назву «Літоўскія лясы»: «Літоўскія лясы цягнуцца часам на 20 міль, а паміж Вільняй і Полацкам на 50 міль у шырыню (адлегласць ад Вільні да Полацка складае 286 км. Адпаведна адна міля па даўжыні прыкладна роўная 5,72 км). Гэта прыносіць мясцовым жыхарам вялізны прыбытак. Землі Мсціслаўскія цалкам напоўнены лясамі і водамі. Палессе губляецца сярод лясоў і балот, але як першае, так і другое надзвычай карысна, бо дастаткова мёду і рыбы. Таксама мёд жамойцкіх лясоў узбагачае краіну. Што ўжо казаць пра драўніну, паташ, мачты, птушак, звяроў, грыбы і іншае багацце тых лясоў. Як не здзівіцца шчодрасцю прыроды, якая надзяліла гэту халодную правінцыю незлічонай колькасцю дрэваў, а таксама футрам, без якога было б немажліва там жыць. Пасля шматлікіх гарачых краін няма іншай абароны ад прыкрага ветру і вострага холаду як двайная вопратка і невялічкі кацялок з вуглямі. Манархі і паны саграваюцца комінамі, і то часам з-за недахопу дроў вымушаны вугалем і торфам захоўваць вогнішча. Багацце лясоў можна вызначаць па наступленні халадоў. Калі дрэва ў дастатку, то ў печы і ў коміне вогнішча не будзе гаснуць усю зіму. Шматлікія іншаземцы здзіўляюцца, што пры такіх густых і бязмежных лясах мала дзе можна пачуць аб разбоях, калі ў іх краях без лясоў робіцца вялікае рабаўніцтва»[12]. Трэба адзначыць, што ў главе «Лясы польскія» Ладоўскі сведчыць пра тое, што яны вельмі знясіленыя, а шматлікія з іх ужо зніклі з-за нядбайнага гаспадарання. Ствараючы вобраз лясоў ВКЛ, Ладоўскі ўзгадвае пра гаспадарчую магутнасць краю і людзей, якія там жывуць. Відавочна, што жыхары Княства, асабліва аддаленых лясных рэгіёнаў, якія маглі б стаць натуральнымі прытулкамі для злачынцаў, не схільныя да разбою. Аўтар прысвяціў пытанням лясоў надзвычай вялізны і markdown разнабаковы артыкул, у якім шмат месца адводзіцца і гаспадарчым пытанням. Гэта магло быць вынікам уплыву ксяндза Клюка, у канцэпцыі гаспадарчай рэформы якога гэтая галіна эканомікі займае значнае месца. Таму для Ладоўскага лясы ВКЛ з'яўляюцца рэзервуарам велізарных багаццяў. Народ, які там жыве, – працавіты, ён ведае, як справіцца з рознымі цяжкасцямі, і валодае высокімі маральнымі каштоўнасцямі.

Звернемся да некаторых канкрэтных унікальных з'яў ВКЛ і пачнём з фаўны. У часы Ладоўскага ў агульным ужытку пчаляроў былі вуллі. Але, як адзначае піяр, найлепшым домам для працавітых пчол з'яўляецца борць, выдзеўбаная ў ствале дрэва. Для гэтага падыходзілі сасновыя пні, якія лічыліся лепшымі, чым дубовыя, з-за таго, што ў іх не так скісаў мёд. «Борці больш за ўсё выкарыстоўваюцца ў лясах Літвы ды Палесся. Яны больш прыбытковыя, чым вуллі, бо пчолы маюць большую свабоду для збірання мёду. Але пры гэтым часта борці бываюць разрабаваныя мядзведзямі»[13]. Аўтар не стаў тлумачыць, у чым заключаецца залежнасць паміж «вольнасцю ў збіранні» і якасцю, а можа, і колькасцю атрыманага прадукту. Аднак мы маем у дадзеным фрагменце два важныя моманты. Па-першае, у ВКЛ перавагу мелі традыцыйныя, набліжаныя да натуральных спосабы атрымання прадуктаў ад прадстаўнікоў жывёльнага свету. Гэтыя спосабы цяпер назвалі б «экалагічнымі». Па-другое, у літоўскіх лясах у часы Ладоўскага мядзведзі не былі рэдкасцю, калі не ўлічваць меркаванне, што інфармацыя пра бортніцтва і мядзведзяў не мае такі архаічны характар, як сведчанні пра велічыню экспарту збожжа.

Тут трэба спыніцца на тым, што казаў пра мядзведзяў натураліст-піяр. Ён падзяляў жывёл на тры тыпы: «Адны вялікія чорныя ці рудыя, другія меншыя, якіх называюць бортнікамі, і трэція малыя, у якіх канцы валасоў блішчаць быццам срэбра»[14]. Гэтыя звяры жылі ў асноўным у пушчах, адпаведна на тэрыторыі ВКЛ. Яны характарызаваліся, як кажа Ладоўскі, больш цёмнай поўсцю. Цыганы, якія жылі ў Княстве, навучалі іх розным штукам, паказвалі людзям і вандравалі з імі не толькі па Рэчы Паспалітай, але і за яе межамі. Што трэба падкрэсліць, паводле Ладоўскага, дык гэта тое, што ў ВКЛ «бываюць мядзведзі незвычайнай велічыні»[15]. Адзін з гэтых гігантаў быў дастаўлены ў Непаламіцкую Пушчу на паляванне, якое было арганізавана для караля Жыгімонта І Старога. Ён быў раззлаваны і пазабіваў шмат народу, у тым ліку і каралеўскага блазна Станчыка і яго каня. Але падзеі мелі трохі іншы характар. Так, па просьбе караля, карычневы звер быў дастаўлены ў Пушчу, праўда, у выніку чалавечай нядбайнасці ён стаў агрэсіўным і забіў і пакалечыў некалькі асоб. Але на гэтым гістарычная праўда заканчваецца. Найвялікшай ахвярай стаў не Станчык, які застаўся цэлым, а каралева Бона. Яна была цяжарнай і ўпала з каня, які спалохаўся мядзведзя. З-за гэтага выпадку адбыўся выкідыш. Павінен быў нарадзіцца хлопчык[16]. Такім чынам, найбольшая шкода была нанесена роду Ягелонаў, а можа, і ўсёй Рэчы Паспалітай. Як бачым, аўтар працаваў не толькі з гістарычнымі фактамі. Вяртаючыся ж да саміх

мядзведзяў, інфармацыя пра тое, што злоўленых мядзведзянят у ВКЛ дрэсіруюць, паўтараецца і ў артыкуле, прысвечаным «бортніку», або мядзведзю, які здабывае мёд з борцей[17].

Прадстаўніком арнітафаўны, якую можна было спаткаць у тыя часы ў лясах ВКЛ, быў фазан. Птушку, прывезеную з Венгрыі, аўтар трымаў «у лесе Белавежскім цэлае лета, але зімою птушку заўжды лавілі і саджалі ў клетку, бо яна не любіла халадоў»[18]. Фазан з'яўляецца птушкай, якая вельмі добра вытрымлівае нізкія тэмпературы, таму яна выдатна прыстасавалася да нашых кліматычных умоў, пра што ведаў і сцвярджаў ксёндз Клюк, на якога так часта спасылаўся Ладоўскі. Аднак у гэтым выпадку ён звярнуўся да іншых невядомых крыніц. Тым не менш з прадстаўнікоў арнітафаўны краю шмат месца прысвечана характарыстыцы цецерука – прыгожай птушкі з атрада глушцовых, да якіх адносяцца курапаткі, глушцы, рабчыкі[19]. У той жа час, як адзначыў піяр, яны сустракаліся ў шматлікіх рэгіёнах Рэчы Паспалітай, але часцей за ўсё – на Русі і ў Літве[20]. Што цікава, глушцу Ладоўскі прысвяціў мала месца, адсылаючы да інфармацыі, змешчанай у артыкуле пра цецерука. Галоўным чынам ён засяродзіў увагу на глушцы падчас такавання, які страчвае пільнасць і дазваляе да сябе падысці паляўнічым. Як цецерука, так і глушца Ладоўскі залічвае да рабчыкаў. Ён адзначае, што нізкая колькасць пагалоўя глушцоў з'яўляецца вынікам нападаў драпежнікаў на тых птушак, якія робяць гнёзды на зямлі. Інфармацыю, а таксама цэлыя фармулёўкі Ладоўскі ў чарговы раз узяў з працы ксяндза Крыштафа Клюка пра дзікіх і хатніх звяроў[21]. Падобна і ў выпадку рабчыка, самага маленькага прадстаўніка глушцоў, Ладоўскі абапіраўся на працы Клюка. Рабчык у вялікіх колькасцях сустракаўся ў Польшчы і ВКЛ. Аб распаўсюджанасці гэтай птушкі сведчыць і той факт, што «каля Полацка можна было купіць 2 птушкі за 4 грошы»[22]. У Клюка вельмі мала інфармацыі пра арэал распаўсюджвання азначаных прадстаўнікоў фаўны, гэта сведчыць пра тое, што Ладоўскі шукаў інфармацыю ў іншых крыніцах. Узбагачае прыродазнаўчую інфармацыю і кулінарны аспект, у выпадку рабчыка Ладоўскі дае параду кухару: «Абскубаны, пасыпаны кропам і паліты алеем, ён выдатна захоўваецца»[23].

Яшчэ адным прадстаўніком фаўны Рэчы Паспалітай, найбольш дасканалую форму якога можна было адшукаць на землях ВКЛ, быў бабёр. «Звычайна літоўскія бабры з'яўляюцца найлепшымі, таму што яны маюць чорнае футра, мяккае і шчыльнае. На Палессі аднойчы злавілі белага бабра, другога такога прадалі ў Оўручы за 50 талераў»[24]. У артыкуле «Бабровы струмень» прысутнічае яшчэ адна інфармацыя пра высокую якасць баброў з Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта здабываемы «бабровы струмень», ці эсэнцыя, якая выдзяляецца з тлушчавай тканіны гэтага звера, была надзвычай каштоўным медыцынскім прэпаратам, аб чым сведчыць той факт, што яго адсылалі да Гданьска, а адтуль да розных гарадоў па ўсёй Еўропе.

Нельга прапусціць апісанне пра каня – жывёлу, любімую жыхарамі Рэчы Паспалітай, карысную ў гаспадарцы, якая давала вялізнае задавальненне і забаву. Характарызуючы розныя пароды коней, якіх аўтар сустракаў у Рэчы Паспалітай, асобную ўвагу ён надае дзікаму каню, хаця і меў з ім некаторыя праблемы: «Адны людзі апісваюць, быццам гэта малая і недарэчная жывёла не цярпіць на сабе вершніка з-за слабых ног і ўцякае, як толькі бачыць чалавека. Іншыя, наадварот, пішуць, што гэта прыгожы, моцны і хуткі звер, які дае сябе прыручыць і збольшага падобны да хатніх коней, толькі мае мяккі хрыбет, на якім цяжка ўсядзець»[25]. Але адно застаецца нязменным, што часцей за ўсё іх можна спаткаць у лясах Прусіі, у Татрах, а перш за ўсё ў лясах ВКЛ.

Канешне і цар пушчаў Рэчы Паспалітай, а менавіта зубр, знайшоў сваё адлюстраванне ў працы Ладоўскага. Перш за ўсё ён быў паказаны як надзвычай грозны звер, раз'юшанасць якога заўжды заканчваецца шалёным нападам. Паводле піяра, ён быў амаль непераможны і забіць яго было надзвычай складана. Адзіным месцам, удар па якому прыводзіў да смерці, была пэўная частка карка. Вага гэтага гіганцкага звера дасягала 20 цэнтнераў. Невядома, які цэнтнер меў на ўвазе аўтар. У тыя часы існавалі цэнтнер варшаўскі = 160 фунтаў, ці каля 64 кг; цэнтнер львоўскі = 128 фунтаў, ці 51 кг. Адпаведна ў першым выпадку вага каля 1280 кг, у другім – 1200 кг. Пры гэтым, паводле Ладоўскага, самка важыла больш за самца. Такую інфармацыю ён узяў з прац ксяндза Клюка, які заўжды пісаў, што самкі цяжэй за самцоў[26]. Аднак звесткі ксяндза не адпавядаюць рэчаіснасці, бо прысутнічае адваротная дыспрапорцыя. Самец зубра (Bisonus bona sus) важыць каля 1000 кг, у той жа час вага самкі таго ж віду дасягае 700 кг, адпаведна розніца ў вазе дасягае 30 %, што вельмі цяжка не заўважыць нават на вока[27]. Вяртаючыся да інфармацыі Ладоўскага, ён піша, што «асаблівыя зубры сустракаюцца ў літоўскіх пушчах. Кромер узгадвае, што ў Белавежскіх лясах зубры ходзяць статкамі, некаторых маладых зубранят перавозяць у Саксонію для размнажэння гэтага звера. Яны пасвяцца на траве, могуць нараджацца і ў хатніх умовах. Кажуць, што чырвоны колер выклікае іх гнеў. На людзей яны не кідаюцца, толькі калі раз'юшаныя, мяса смачнае, скура моцная і тлушч прыдатны да ўжывання»[28]. Можна меркаваць, што большая частка даных належыць далёка не экспертам у сваім пытанні, пра гэта сведчыць хаця б рэакцыя, якая прыпісваецца зубрам, на чырвоны колер. Гэта ўзята хутчэй за ўсё з рознага кшталту забабонаў, якія датычацца як хатніх быкоў, так і дзікіх. Вядома, што і тыя і іншыя жывёлы не адрозніваюць колераў.

Апроч фаўны, расліннасць, якую можна было сустрэць у пушчах і лясах ВКЛ, таксама характарызавалася спецыфічнымі ўласцівасцямі. Прыкладам можа быць дрэва пад назвай вяз, якое, як пісаў Ладоўскі, па меркаванні некаторых натуралістаў, можа быць далучана да сям'і дубовых. Гэтыя дрэвы можна было знайсці на тэрыторыі Рэчы Паспалітай і ВКЛ. Драўніна вязу выкарыстоўвалася пры вырабе

колаў, «якія атрымоўваюцца настолькі моцнымі, што, не будучы акаванымі, могуць прайсці сто міль і болей»[29]. Як бачна, унікальнасць гэтага дрэва была перакладзена ў эканамічную вартасць.

У працы Ладоўскага ўзгадваецца шэраг раслін з лекавымі ўласцівасцямі, аднак у шматлікіх выпадках аўтар не пазначыў іх прымет і арэала распаўсюджвання. Зрэшты былі і выключэнні. На прасторах ВКЛ часта выкарыстоўвалася ў якасці медыкамента каліна, падмарожаныя ягады якой прымалі як лекі супраць кашлю. А «ў Літве збіраюць на зіму вязанкі каліны, сушаць пад страхою і ўжываюць на розныя лекі»[30]. З характарыстыкі гэтай жа расліны становіцца зразумелым, што аповед датычыцца аднаго з 150 відаў каліны, якія існуюць на свеце, а менавіта каралавай каліны (Viburnum opulus)[31]. У іншым артыкуле змешчана цікавая інфармацыя, якая можа акрэсліць больш шырокі аспект ужывання гэтай расліны жыхарамі ВКЛ, а не толькі як лекі ад прастуды. Цяпер вядома, што найбольш карысная частка гэтай расліны – кара, а не ягады[32]. У сувязі з гэтым можна дапускаць, што калі сушылі цэлыя вязанкі, то ў фармацэўтычных мэтах выкарыстоўвалася і кара расліны.

Апроч жывёльна-расліннага свету ў працы Ладоўскага ў адпаведнасці з развіццём прыродазнаўчай гісторыі ў той час былі таксама ўключаны пытанні, якія датычыліся геалогіі і мінералогіі. Адзін з нешматлікіх прыкладаў: «Алебастр ёсць камень крэйдавы, складаецца з тонкіх і прамяністых частак, якія падобныя на кропкі. Паддаецца паліроўцы, але не можа мець уласцівасцей мармуру. Знаходзяць алебастр на гары пад назвай Скала і ў каменных гарах каля Львова»[33]. Аднак гэта не адзіная лакалізацыя, якая выступала, паводле Ладоўскага, па ўсёй Рэчы Паспалітай. Яго можна было знайсці на землях Чырвонай Русі, пад Кракавам, а найпрыгажэйшы, які не саступаў фрыгійскаму, здабываўся ў наваколлі Галіча. Амаль ва ўсіх выпадках лакалізацыя геалагічных з'яў у ВКЛ была названая толькі адна, ды і тое не самая галоўная.

У дадатак да розных з'яў з катэгорыі прыродазнаўчай гісторыі аўтар памясціў і апісанні прыродных і фізіка-геаграфічных умоў ВКЛ. Напрыклад, шмат увагі ён надзяляў забалочанай мясцовасці. «Багна – гэта збор стаячай і нежывой вады, якая з часам можа высахнуць. Балоты бываюць двух відаў: адны – слізкія, якія складаюцца з зямлі і вады і бываюць настолькі рэдкімі, што не затрымліваюць слядоў чалавека; другія – маюць ваду пад зямлёй. Нягледзячы на тое, што Літва збольшага раўнінная, яна поўная балот. Вакол горада Трокі стаяць непралазныя балоты, дзе не замярзае вада нават у самыя цяжкія маразы. На Палессі паміж рэкамі Піна і Ясельда знаходзіцца такое вялікае балота, што нагадвае як быццам найвялікшае возера. Там жа рэкі Прыпяць, Уша і Случ акружае велізарнае балота. Каля ракі Здвіж таксама было шмат балот, але цяпер яны асушаныя і на іх месцы стаяць вёскі. Можна было б асушыць усе балоты і выкарыстоўваць іх пад гаспадарчыя землі, як гэта зрабілі галандцы. У нашы часы слаўны прыклад даў вялікі літоўскі гетман Агінскі, які зрабіў канал да ракі Шчары, асушыў усе балоты ў Пінскім павеце і зрабіў сваё імя бессмяротным»[34]. Аўтар не мог развітацца з тэмай гідралогіі, не апісаўшы адну з самых значных рэк Вялікага Княства Літоўскага – Нёман. «Нёман – рака, якая плыве праз Літву, злучаецца з Віліяй пад Коўна і ўпадае ў Балтыйскае мора. Длугаш піша, што рака таму спакойная, бо мае глыбокае і акруглае дно, дзе яна ціха цячэ ў сваіх берагах і не псуе палёў ды лясоў. У некаторых месцах плынь настолькі крутая, што калі плывуць караблі з аднаго начлегу цэлы дзень супраць плыні, то ўвечары яшчэ бачаць месца свайго мінулага вогнішча. Апроч іншых рыб, у Нёмане сустракаюцца ласось, мінога і фарэль. Літоўскія тавары сплаўляюцца да Круляўца»[35]. Як можна зразумець, па сутнасці, рака была прыгожая, велічная, багатая на самыя розныя прыродныя рэсурсы, а таксама давала магчымасць да гаспадарчага развіцця, дзякуючы сваёй судаходнасці. Усё апісанне прасякнута пафасам і ўзнёсласцю. Ці быў гэта Ладоўскі, ці іншы аўтар, ад якога ён узяў інфармацыю, дакладна невядома.

Вялікае Княства Літоўскае – гэта не толькі флора і фаўна, каштоўныя камяні ці велічныя краявіды, але і зямля, на якой узнікла мноства каштоўных і карысных рэчаў. Прыкладам могуць быць «дошкі, якія вырабляюць з невялікіх кавалкаў дуба, з якіх робяць бочкі і іншае драўлянае начынне. Іх спускаюць на платах да Гданьска, а адтуль закупляюць у Англію і Галандыю. Больш за ўсё гэтага тавару прыходзіцца з літоўскіх пушчаў»[36]. Відавочна, што найлепшыя дошкі вырабляліся з дрэваў, што раслі на прасторах ВКЛ. У сувязі з тым, што дрэва найлепшай якасці, якое зараз назвалі б будаўнічым, расло на літоўскай зямлі, Ладоўскі робіць вельмі сур'ёзныя высновы. А менавіта сцвярджае, што ВКЛ мае надзвычай вялікія заслугі за будаўніцтва ў такіх еўрапейскіх краінах, як Галандыя і Германія. Гэта адбылося таму, што туды сплаўлялі апрацаваныя бярвенні. «З літоўскіх лясоў вельмі шмат за год экспартуецца бярвенняў і іншай драўніны, з іх будуюцца як дзяржаўныя, так і прыватныя будынкі ў Германіі і Галандыі»[37]. Як бачна з працы Ладоўскага, без збожжа і драўніны з зямель ВКЛ было б цяжка ўявіць жыццё і цывілізацыйнае развіццё краін Заходняй Еўропы, калі не ўсіх, то асноўных.

Такім чынам, можна зрабіць пэўнае падсумаванне бачання Вялікага Княства Літоўскага Рэмігіюшам Ладоўскім у сваёй працы. Безумоўна, што яна мае эклектычны характар, таксама аўтар з вельмі малой доляй крытыкі адносіцца да ўжываемых фактаў, таму яна цудоўна ўпісваецца ў межы выміраючага ў нашы часы жанру забаўляльнай навукі[38]. Мы знаходзім на яе старонках з'явы і феномены, якія можна зараз разглядаць як байкі. Значымасць для гісторыі ж заключаецца ў тым, што праца была актуальнай у часы Ладоўскага. Як бачна з прыведзеных прыкладаў, аўтар браў інфармацыю з крыніц пачатку XVIII ст. і ранейшых стагоддзяў. Прычым ён трактаваў гэтыя факты не як дакладна гістарычныя, а як найбольш актуальныя веды таго часу. Безумоўна, ён імкнуўся тым самым запоўніць прабелы ў ведах пра Рэч Паспалітую, яе прыродныя скарбы, прыгажосць прыроды, ведах, якіх, як ён сам пісаў,

не хапала ў літаратуры. Гэтыя намеры былі сфармуляваны ў прадмове да кнігі. Таксама можна меркаваць, што аўтар меў мэту абудзіць у чытача сум па старой Рэчы Паспалітай, важнай часткай якой было Вялікае Княства Літоўскае. Зварот да крыніц, можа не такіх ужо актуальных, але поўных захопленых водгукаў пра прыродныя багацці краіны, яе гаспадарчы патэнцыял, азначаў, што аўтар хацеў абудзіць патрыятычныя пачуцці ў суайчыннікаў. Неаднаразова вобраз ВКЛ меў характар гіпербалізаваны, ідэалізаваны, нагадваючы залаты час Рэчы Паспалітай двух народаў. Неаднаразова, каб пацвердзіць свой тэзіс аб унікальнасці з'яў, апісаных у кнізе, ён звяртаўся да постацей уладароў, з часоў якіх Вялікае Княства Літоўскае поруч з Каронай Польскай будавала супольную дзяржаву.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

[1] Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli zbiór krótki przez alfabet ułożony, zwierząt, roślin i minerałów znajdujących się w Polszcze, Litwie i prowincjach odpadłych. Zebrana z pisarzów godnych wiary, rękopismów i świadków oczywistych… Kraków, 1783. S. 4.
[2] Ibid. S. 101.
[3] Гл.: Arabas I. Losy kolekcji księżnej Anny Jabłonowskiej na podstawie dokumentów z archiwum Rosyjskiej Akademii Nauk w St. Petersburgu // Kwartalnik Historii Nauki i Techniki. 2009. № 2. S. 95–108; Idem. Przyrodnicy, kolekcjonerzy i teoretycy muzealnictwa // Kwartalnik Historii Nauki i Techniki. 2009. № 1. S. 124.
[4] Гл.: Historia nauki polskiej, t. VI / pod red. B. Suchodolskiego. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1974. S. 371; Tradycja badań przyrodniczych Podlasia z punktu widzenia poznania i ochrony środowiska naturalnego // Studia z dziejów ochrony przyrody w Polsce / pod red. J. Babicza, W. Grębockiej, Z. Wójcika. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk; Łódź, 1985. S. 176; Kowalska K. Zoologia // Zarys dziejów nauk przyrodniczych w Polsce / pod red. K. Maślankiewicza. Warszawa, 1983. S. 342.
[5] Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 94.
[6] Ibid. S. 94.
[7] Ibid. S. 94–95.
[8] Гл.: Historia nauki polskiej… S. 476–477.
[9] Гл.: Lipiński E. Historia polskiej myśli społeczno-ekonomicznej do końca XVIII wieku. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1975. S. 199.
[10] Гл.: Historia nauki polskiej… S. 643.
[11] Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 95.
[12] Ibid. S. 89.
[13] Ibid. S. 6.
[14] Ibid. S. 115.
[15] Ibid. S. 115.
[16] Гл.: Kryński A. Z kart łowiectwa polskiego. Warszawa, 1991. S. 28.
[17] Гл.: Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 7.
[18] Ibid. S. 8.
[19] Гл.: Łowiectwo. Larousse Encyklopedia / pod red. Paul Havet, tłum. M. i I. Szmurło. Warszawa, 1994. S. 155–161.
[20] Гл.: Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 24.
[21] Гл.: Kluk K. Zwierząt domowych… t. II. Warszawa, 1779. T. 2. S. 293–294.
[22] Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 52.
[23] Ibid. S. 52.
[24] Ibid. S. 12.
[25] Ibid. S. 75.
[26] Гл.: Kluk K. Zwierząt domowych… Warszawa, 1779. S. 349.
[27] Гл.: Świat zwierząt / pod red. L. Korbel, tłum. M. Cymerman. Warszawa, 1983. S. 318.
[28] Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 203.
[29] Ibid. S. 14.
[30] Ibid. S. 63.
[31] Гл.: Tomanek J., Witkowska-Żuk L. Botanika leśna, wyd. VII rozszerzone i uzupełnione. Warszawa, 2008. S. 356.
[32] Гл.: Broda B. Zarys botaniki farmaceutycznej, wyd. VI pop. Warszawa, 2002. S. 276.
[33] Ładowski R. Historia naturalna królestwa Polskiego czyli… S. 2.
[34] Ibid. S. 5.
[35] Ibid. S. 116.
[36] Ibid. S. 71.
[37] Ibid. S. 6.
[38] Гл.: Bieńkowski T. Polscy przedstawiciele «scientia curiosa» // Rozprawy z Dziejów Oświaty, t. XXX. 1987. S. 5–34.

Паступіў у рэдакцыю 18.12.12.

***Пётр Бадына*** – дактарант Вроцлаўскага ўніверсітэта. Навуковы кіраўнік – прафесар Б. Рок.
***Леанід Юр'евіч Казакоў*** – выкладчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу.

*Г. І. МАСКЕВІЧ*

## АДУКАЦЫЯ ЯК ФАКТАР САЦЫЯЛЬНАЙ ІЕРАРХІІ СЯЛЯНСТВА БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

Рассматриваются некоторые аспекты получения образования крестьянством Беларуси во второй половине XIX в.: возможности крестьян обучаться в учреждениях, дающих начальное и среднее образование; причины, ограничивающие возможности обучения крестьянства; роль и место грамотных крестьян в сельской среде. Показана эволюция отношения крестьянства Беларуси к получению образования на протяжении второй половины XIX в., отличающаяся постепенным ростом популярности образования среди сельского населения. Анализируется уровень грамотности крестьянства, характеризуется качество полученного крестьянами образования, которое в большинстве случаев ограничивалось лишь начальной ступенью обучения. Исследуется